Цана асобнага нумару 20 гр. — Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 29. Вільня, Чацьвер 16 Верасьня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

**Падпіска:** на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.

**Цана абвестак:** на 1-ай староцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку уваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Зямля й асаднікі.

Усім ведама, што беларускі безьзямельны і малазямельны селянін вельмі патрабуе надзяленьня яго зямлёй. Ведама ўсім, што беларускі земляроб мае на гэтаю зямлю поўнае права. Разам з гэтым усім ведама, што толькі *беларускі* земляроб мае на гэтаю зямлю права, а ўсялякі чужнік на яе ня мае жаднага права, бо зямля гэтая *беларуская.*

А калі так, дык ведама, што ўсялякі чужнік, што бяз згоды або проці волі беларускага народу захапіў беларускаю зямлю, мусіць хоцькі-няхоцькі гэтае зямлі зрачыся і ўступіць яе прыроднаму гаспадару ейнаму—беларускаму земляробу. Нямаш такога Беларуса, каторы-бы думаў начай.

Але з Палякоў ніхто гэтае яснае, як Божы дзень, праўды ня хоча зразумець. Мы ня кажам аб польскіх чарнасоценцах, эндэках і ім пад., бо яны сьпяць і думаюць як-бы нас зьесьці і ім у нас можа быць толькі адзін адказ, а гэтым адказам ёсьць барацьба. Але навет тыя Палякі, што лічаць сябе дэмакратамі, касаваць польскага асадніцтва ў нас ня думаюць. У перадавіцы № 190 „Kur. Wil." чытаем, што не павінна быць далейшай колёнізацыі Заходняй Беларусі Палякамі і што парцаляванаю зямлю павінны дастаць мясцовыя земляробы. Калі так, дык як можна пакінуць зямлю дагэтуляшнім асаднікам? А тымчасам у тэй-жа стацьці міністар Станевіч дастае пахвалу за тое, што ён руліцца памагаць асаднікам. Тут-жа чытаем:

> „тое, што зроблена ў галіне асадніцтва ў нас, ня можа быць ані квэстыянавана, ані ліквідавана. Новыя грамадзяне нашага краю ня могуць быць пашкоджаныя за абмыльныя і навет шкодныя мотывы палітычныя, якімі кіраваліся, садзячы іх"

Той, хто стаіць за прызнаньне дагэтуляшняга асадніцтва, бароніць ня толькі гэтае асадніцтва, але і ўсялякае асадніцтва далейшае. Бо, падумайце, чаму польскія дэмакраты ня хочаць нарушаць дагэтуляшняга асадніцтва? Вылучна дзеля таго, што яно ўжо *сталася*. Дык зразумела, што далейшае асадніцтва яны таксама прызнаюць, як яно станецца, прызнаюць хоць-бы не хацелі, бо гэтага будзе вымагаць ад іх зялезная консэквэнцыя. Сваім гэтым становішчам „Kur. Wil." заахвочуе Палякоў да асадніцтва далейшага. Але мы ня думаем, каб польскія дэмакраты былі такімі людзьмі наіўнымі. Гэтак думаючы, яны мусілі-б прызнаць, што ўкрадзены кажух трэба пакінуць у злодзея, бо ён яго *ўжо* ўкраў, асабліва калі да крадзежы яго намовіў бацька або дзядзька.

Няшчырасьць польскіх дэмакратаў відаць яшчэ з таго, што яны нічога ня мелі проці ліквідацыі нямецкіх асаднікаў у Пазнані.

Ясна, што паны з „Kur. Wil.", пакінуўшы на баку ўсялякаю справядлівасьць, стаяць за асадніцтва. Гэта часткава яны прызнаюць у тэй-жа стацьці. Яны тутака згаджаюцца, што зямлю ў Беларусі маюць дастаць тыя Палякі, якія безпасярэдне прычыніліся да асушаваньня балотаў. Ці-ж гэта ня згода на далейшаю калёнізацыю? Калі прывозяць (часта без патрэбы) польскіх работнікаў асушаваць балоты, дык за гэта трэба заплаціць, але не даваць ім зямлі. Апроч таго, як асушальнікі, змогуць даставаць зямлю людзі, што балота ўвочы ніколі ня бачылі.

Гэтак Палякі адносяцца да асадніцтва, але мы Беларусы із жадным асадніцтвам ніколі ня згодзімся.

*Максім Прынскі.*

## Навука усім.

**Паўлюкевічава „рада" разваліласяа, а самога Паўлюкевіча адусюль выкінулі.**

Хто не шкадаваў часу чытаць Паўлюкевічава „Беларускае Слова", той ведае як хваліў п. Паўлюкевіч свой зьезд (быў у Вільні 27—28 ліпня) і абранаю ім „Беларускаю Нацыянальнаю Раду Заходняе Беларусі". А тымчасам зьезд быў такі, якім толькі і можа быць зьезд склісаны па загаду польскай улады і пры помачы дэфэнзывы. На зьезьдзе пасьцівыя людзі адважнейшыя галасавалі проці Паўлюкевіча, а баязьлівыя ані за, ані проці, а толькі маўчалі. А за Паўлюкевіча галасавалі шпікі. Але на гэным зьезьдзе сталася цікаўная рэч. Аказалася, што навет людзі, каторыя прыехалі на запросіны самога Паўлюкевіча і агентаў дэфэнзывы, знайшлі ў сабе гэтульки беларускай сьвядомасьці, што вынесьлі рэзалюцыі ў некатарай часьці беларускія. Рэзалюцыі гэныя вельмі не падабаліся і Паляком і Паўлюкевічу. П. Паўлюкевіч потым гэныя рэзалюцыі сваім адумам крыху перакруціў; прыкладам усюды былі заменены словы „Заходняя Беларусь" на „Крэсы". Гэта Паўлюкевіч зрабіў, каб меней Палякі злаваліся. Але зьмяніць усяго было немагчыма. Прышлося п. Паўлюкевічу варочаць страчанаю ласку накшай дарогай, казаць польскай уладзе (вайводзе Рачкевічу), што гэна толька найвялікшыя зычэньні зьезду, а што ён із сваёй „радаю" цяпер хочаць шмат меншага, начай кажучы ўсяго толькі сабе пэнсыі.

Але п. Паўлюкевіча чакалі ўжо далей адны няпрыемнасьці. Прывыкшы ўсё рабіць самадумам, п. Паўлюкевіч неўспадзеўкі знайшоў адпор проці гэтага ў самой-жа сваёй „радзе". Проці самазвана, адным Паўлюкевічам бяз ведама „рады", выдадзенай адозвы запротэстаў у „Kurjer'ы Wileński'м" віцэ-старшыня „рады" Аляхновіч. Борзда Фр. Аляхновіч зусім вышаў з „рады", аб чым і абвесьціў у „Kur. Wil." з 9 верасьня. Яшчэ раней выступіў з „рады" сьвяшч. Сакол-Тутылоўскі. Такія людзі як князь Друцкі-Падберэскі ў „раду" адразу адмовіліся ўходзіць. Дык Паўлюкевіч астаўся ў „радзе" толькі із сваім Якімовічам.

Гэтым справа ня скончылася. Перад распадам „рады" сябры ейныя і блізкія да „рады" людзі зацьвярдзілі статут клюбу „Беларуская Хатка", як арганізацыі асьветнага характару. У лічбе закладчыкаў гэтага клюбу быў і Паўлюкевіч. Цяперака рэшта закладчыкаў клюбу, баючыся, што калі будзе ў ім Паўлюкевіч, дык ніхто зь Беларусоў туды носу не пакажа, выкінула зь „Беларускай Хаткі" Паўлюкевіча.

Тутака зацемім, што, калі толькі „Беларуская Хатка" будзе займацца палітыкай, дык яе Беларусы будуць чурацца.

Ці-ж з Паўлюкевічавай службы Паляком ня ёсьць усім навука? Ці-ж не даволі ўсе пераканаліся, што жадная полёнофільская работа беларуская немагчыма ў той час, калі Палякі ўсё беларускае перасьледуюць? У гэтай рабоце памёрлі як палітычныя і грамадзкія дзеячы Аляксюк, Зеленадубцы, Балахоўцы, Актывісты горадзенскія, Валэйша і цяпер Паўлюкевіч.

А што скарыстала зь іх польская ўлада? Нічагусенькі не скарыстала! Стварылася толькі агульнае і цьвярдое пераканаьньне, што жадным Беларусам, хоць-бы найболей компромісным і полёнофільскім з Палякамі працаваць немагчыма.

А колькі растрачана грошаў на гэтыя авантуры, колькі за гэныя грошы можна было зрабіць добрага?! Дык няма дзіва, што ў Польшчы і Заходняй Беларусі нягодна і што мы ўсе пагалелыя, калі народныя грошы йдуць на розныя авантуры, хмары патайное і яўнае паліцыі і г. п.

Мусіць ужо наступнік Паўлюкевічу ня знайдзецца, бо каму ня дорага беларуская справа, той прынамся пашкадуе свае асабістае скуры.

А Палякі так-жа мусіць пераканаліся, што ані пры помачы розных Паўлюкевічаў, ані пераз галавы прадстаўнікоў беларускага народу ім разьвязаці беларускага пытаньня ня ўдасца. Калі Палякі запраўды хочуць разьвязаць гэтае пытаньне, дык яны павінны стаць лёяльнымі ў адносінах да беларускага народу і наўперад спаўняць свае законы ў адносінах да Беларусаў.

*Д. Г.*

## Міжнародны Студэнцкі Конгрэс.

Сёлета ад 18—29 жніўня быў у Празе (Чэхія) Міжнародны Студэнцкі Конгрэс, на якім былі прадстаўлены 32 розныя народнасьці з 300 дэлегатамі. Ад Аб'яднаньня Беларускіх Студэнтаў была на гэтым конгрэсе дэлегацыя з 3-х асобаў: грам. грам. Янкі Ермачэнкі, Вячэслава Лаўскага і Адольфы Клімовіча, за якога нявысутнасьцяй быў Тамаш Грыб. Заданьнем іх было, каб дабіцца прыняцьця Беларускага студэнства ў лічбу сяброў Міжнароднай Студэнцкай Конфэдэрацыі. Гэта мэта была дапята і на пленарным паседжаньні 27.VIII. У парадку дзенным было запрапанавана камітэтам прапаганды, каб было прынята Беларускае Студэнцтва як сябра конфэдэрацыі. На гэта ў кароткай прамове грам. Ермачэнка зазначыў мэты Беларускага Студэнцтва, яго арганізацыю і апэляваў да пленуму, каб Беларускае студэнства было прынята ў супрацаўніцтва зь іншымі народамі конфэдэрацыі. Прамова гэтая была ўсімі дэлегацыямі прынята жывымі воплескамі, што дало думаць, што нашая справа стаіць добра. Пасьля гэтае прамовы старшын конгрэсу грам. Балінскі (Паляк) паставіў пытаньне на галасаваньне—і тут аказалася, што прыняты былі Беларусы *аднагалосна.* Цікава было толькі тое, што ў залі ня былі дэлегаты Польшчы, Баўгарыі і Югаславіі.*) Гэтак Славяне адазваліся на славянскае пытаньне.

Калі адбылося галасаваньне старшыня конгрэсу грам. Балінскі прывітаў уступ Беларусоў і зазначыў, што ў паразуменьню і супрацы мы зможам аб'яднацца і дойдзем да лепшай будучыні. На гэта адказаў грам. Ермачэнка падзякай конгрэсу за прыняцьце і абяцаў, што Беларускае студэнцтва будзе правільна трымацца той праграмы, якая ляжыць у васнове С. І. Е. (Confederation International Etudiants).

*) Расейцы права пастанаўляючага голасу у конфэдэрацыі ня маюць, толькі дарадчы.

**— Асподні падатак.** Ад 1-га верасьня мае сілу новы асподні (кватэрны) падатак. Ім ападаткуюцца ўсе памяшчэньні на тэрыторыі мескавых самаўрадаў. Асноваю падатку ёсьць арэнда 1914 году. Падатак складае 8 процэнтаў ацэны, з каторых 4 проц. йдзе месту, 2—у гаспадарсьцьвены фонд адбудовы места, 2—у ваенны асподні (кватэрны) фонд. Падатак трэ' будзе плаціць у лютым, маі, жніўні і лістападзе роўнымі часьцьмі. Падатак вылічае і спаганяе мескавае ўпраўленьне. Плачэльнікі маюць плаціць асподні падатак комунальны і гаспадарсьцьвены на аснове дастаных раней загадаў толькі за чэцьверць I і II і 1/8 III чэцьверці, а на рэшту пяць месяцаў усе плачэльнікі дастануць новыя загады з вылічэньнем падатку паводле новых нормаў.

Звальняюцца ад падатку: сьвятыні, надбуданыя або адбудаваныя пасьля 1-га студня 1919 году, памяшчэньні, занятыя ўрадовымі ўстановамі, органамі самаўрадаў, асьветнымі, дабрадзейнымі арганізацыямі, асподы дворнікаў і г. п.

**— Афэра ў зялезнадарожнай дырэкцыі віленскай.** *Прадавалі фальшывыя білеты.* Слаўная сваімі афэрамі (круцелствамі) віленская дырэкцыя яшчэ раз прыпомнела аб сабе. У вапошнім часе выявілася, што ў білетнай друкарні дырэкцыі друкавалі фальшывыя білеты, якія і прадавалі некаторыя касіры, а грошы, ведама, бралі сабе. Думаюць, што фальшывыя білеты прадаваліся некалькі год. Знойдзена цяпер 3 тысячы фальшывых білетаў.

Арыштаваны два касіры віленскага вагзалу: Я. Новіч і Фр. Васюкевіч. Апроч таго арыштаваны Э. Шафранскі, друкар зь білетнай друкарні. Касіры і друкар мусіць думалі, што калі крадуць вялікія ўраднікі ў Польшчы, дык чаму-ж ім ня ўкрасьці.

**— Фальшывыя пяцізалатоўкі.** У вапошнім тыдні на віленскім рынку зьявілася значная колькасьць фальшывых пяцізалатовак.

**— Жанімствы жаўнераў абмежаны.** Можа дастаць дазваленьне толькі унтэр-офіцэр, каторы служыў ня меней 3-х год і мае 24 гады.

# Зь Літвы.

### Літоўска-Нямецкія перагаворы.

Наказуюць із Коўні, што прэзыдэнтам рэспублікі назначана дэлегацыя для гандлёвых перагавораў зь Нямеччынай. На чале дэлегацыі стаіць Пурыцкіс.

### Пазыка Коўні.

На конфэрэнцыі друку бурмістр м. Коўні п. Вілейшыс паведаміў, што ўмовы загранічнай пазыкі Коўні прынятыя мескавай радаю.

Пастанову аб пазыцы мае прыняць яшчэ Сойм.

### Аб Вільні.

Паўнамочны міністар і дэлегат Літвы ў Лізе Народаў п. Сідзікаўскас даў гутарку корэспондэнту тэлеграфічнай Агенцыі Express. Мін. Сідзікаўскас заявіў, што: „Пытаньнем, каторае дзеліць Польшчу й Літву ёсьць справа тэрыторыяльная". Пакуль гэтае пытаньне ня будзе разьвязана, датуль немагчымы жадныя зносіны паміж Літвой і Польшчаю, ня вылучаючы і гаспадарскіх.

Разглядаючы гэтаю заяву прадстаўніка Літвы, польскі „Kurjer Wileński" кажа:

„Літва ня можа ці ня хоча зразумець, што цяперашняе палажэньне ўтварылася на аснове волі насяленьня Вільні".

Мы ня ведаем, які гэта дэмократызм так дазваляе пісаць „Kur. Wil."? Ці воля насяленьня Вільні праявілася ў „бунце" ген. Жэлігоўскага? Або гэтакай воляй можна лічыць выбары ў Віленскі Сойм, у каторы ані Беларусы ані Ліцьвіны ня прыймалі ўчасьця? Ведама не. Аб Вільні мае права пастанаўляць *большасьць* насяленьня Вільні і яе *ваколіцаў*. Большасьць гэтая літоўска-беларуская і воля яе была, ёсьць і будзе не на карысьць Польшчы.

## Да нашых чытароў.

Просім усіх нашых паважаных чытароў, каторыя дагэтуль ня прыслалі грошаў на падпіску, няхай канечне прышлюць грошы да 1-га кастрычніка (1.X).

Хто да 1 кастрычніка (акцябра) не заплаціць грошаў за газэту, таму ад 1-га кастрычніка змушаны будзем газэту перастаць пасылаць.

*Адміністрацыя „Сялянскай Нівы".*

*
* *

Не пакінем мы роднай зямліцы,
Дзе бацькоў нашых зьмерлі дзяды!
Воляй Вечнасьці мусім мы жыці,
Гаспадарыць на роднай зямлі!
Беларускай культуры б'е звон —
Да супрацы склікае нас ён.

Не зрачэмся мы роднага Краю,
Пакуль сьвеце на небе зара!
Нашай роднай культурай із сталі
Збудзім духа ад доўгага сна!
Дзе дагэтуль быў стогн —
Там да працы склікае нас звон.

Досіць сьлёзы нядолі нам ліці
І бязчынна сядзеці у цьме!
Беларусы! Мы мусіма жыці!
Сьпінем духа аспаласьць зь сябе!
Самі згоім мы раны, наш стогн,
Да супрацыззывае нас звон.

Не чакайма мы лекараў ласкі,
Яны крэпку заплату бяруць!
Яны чужы для нас даюць краскі!
Сьмерці нашага духа нясуць...
Слухай роднай культуры твой звон,
Кліча моцна ззывае нас ён!

*Люд. Сьлёзка.*

# З Польшчы.

### Махляваньні на польскіх лётэрыях.

*Выйграваюць загадчыкі лётэрыеў або ўстановы, каторыя разыгрываюць.*

Нядаўна шмат было крыку аб тым, каб куплялі білеты так званай даляровай лётэрыі.

Дык паслухайма, як разыгравалі гэныя лётэрыі. Кракаўская польская газэта „Ilustrowany Kurjer Codzienny" № 245 друкуе гэтакаю тэлеграму:

„Паведамленьне аб тым, што пры апошнім жэрабю так званай даляроўкі, дзякуючы якомусь дзіву, галоўныя выгранкі лучылі на „даляроўкі", каторыя належылі людзём блізкім да праўленьня лётэрэеў, зрабіла ў Львове вялікаю трывогу сярод собсьнікаў гэтых папераў. Выявілася гэта ў продажы даляровак, каторая каля паўдня прыняло масавы характар".

У стацьці „Не зьмяншайце аўторытэту гаспадарства!" гэтая газэта піша гэтакае:

„Скандальная справа з галоўнымі выгранкамі даляровак не павінна прайсьці бяз ведамых на гэтаю тэму гутарак. Дзякуючы дзіўному зыходу абставаў, дзьве галоўныя выгранкі сёлетнія, 40 тыс. і 8 тыс. даляраў, лучылі на білеты, купленыя паўурадоваю ўстановаю блізкаю да гаспадарсьцьвенай (дзяржаўнай) лётэрэі. У мінулыя годы галоўныя выгранкі палі на білеты не прададзеныя. Гэтакія штукі ў урадовай практыцы ня ёсьць выпадкам вынятковым. Ад узніку польскага гаспадарства мы пеража́ылі рад такіх дарэньнеў, каторыя падкопуюць веру да гаспадарства. Прыпомнім толькі галаўнейшыя: несправядлівая менка каронаў на маркі, упадак гаспадарсьцьвеных пазыкаў блізу што да нолі"...

Быў калісь Мэтэрніх добры махляр, але Палякі яго перайшлі.

### Восенскія паседжаньні Сойму.

Час восенскага паседжаньня Сойму адкладзены да 20 верасьня сёл. году. На парадку дня ёсьць бюджэт на 4 чэцьверць году.

## Да Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі ў Вільні.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры стараецца адчыніць Беларускаю Вучыцельскаю Сэмінарыю. Сёлета была-б толькі першая кляса, у якую прыймалі-б тых, што скончылі 7 адзьдзелаў пачаткавай школы або 4 клясы гімназіі. Пакуль што ўрад дазваленьня на сэмінарыю ня даў. Як будзе дастана дазваленьне, тады **аб прыйме ў Сэмінарыю будзе абвешчана ў бел. газэтах.**

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Ліга Народаў.

На Агульнай Зборцы Лігі 10-га верасьня Нямеччына была ўрачыста прынята ў Лігу й разам у Раду Лігі Народаў.

Адначасна з пастановаю аб прынятку ў Лігу Нямеччыны прынята пастанова аб павялічэньню лічбы часовых мясцоў у Радзе Лігі ізь сямёх на 9; на тры месцы можна будзе па трох год абіраць нанова тых самых часовых сяброў Рады Лігі, якім час быцьця ў Радзе скончыўся.

*Гішпанія*, як ведама, дамагалася заўсёднага месца ў Радзе Лігі. Дзеля таго, што гэта ёй ня прызнана, Гішпанія выступіла зь Лігі Народаў. Але на гэтае выступленьне рэшта сяброў Лігі не зьвярнула вялікай увагі. Пераважае пагляд, што выступленьне зь Лігі Гішпаніі не карысна адаб'ецца на Польшчы.

### Гішпанія

трывалага парадку ў сябе дома ня мае. На мінулым тыдню ледзь ня прышло да вайны паміж асобнымі часьцьмі арміі. Сталася гэта з тае прычыны, што значная часьць ахвіцэраў пачулася пакрыўджанай загадамі дыктатара дэ Рывэры. Але паводле апошніх вестак збунтаваныя палкі арміі згадзіліся слухаць ураду.

### Францыя

першая карыстае з уступленьня Нямеччыны ў Лігу Народаў. Гэтым уступленьнем уходзіць у сілу Лёкарнскі трактат паміж Францыяй, Англіяй, Італіяй і Нямеччынай. Паводле гэтага трактату Нямеччына зь непрыяцелкі робіцца добрай суседкай Францыі. Наагул за апошнія часы Францыя зь Нямеччынаю вельмі зблізкаюцца, асабліва з боку гаспадарскага. Ад гэтага збліжэньня адыходзіць у Французаў страх перад Немцамі і Францыя зьмяншае выдаткі на армію. Гэтага вельмі патрабуе хворае гаспадарскае палажэньне Францыі. Збліжэньне Францыі зь Нямеччынаю некарысна Польшчы, бо Францыя ня будзе Польшчы патрабаваць.

### Англія

мае дзьве вялікія бяды, адну нутраную, а другую вонкаваю. Нутраной бядою ёсьць забастоўка вуглякопаў, што трывае ўжо некалькі месяцаў і робіць англіцкаму промыслу вялізманыя страты. Вонкавая бяда Англіі на Усходзе. Ужо даўно паміж Англіяй і СССР вядзецца на Усходзе барацьба. СССР імкнецца падняць проці Англіі ейныя колёніі, асабліва Індыю. Цяперака найгарачэйшая барацьба паміж Англіяй і СССР ёсьць у Хіне (Кітаі), дзе Англія мае вялікія targовыя інтарэсы. Каб адцягнуць увагу СССР ад Усходу, Англія падзьдзержуе Польшчу і ськіровуе яе проці СССР. Добрыя адносіны Англіі зь Нямеччынаю патрэбныя таксама на тое, каб мець разьвязаныя рукі дзеля барацьбы з бальшавікамі.

З другога боку, Англія пачала ўжо вайну з тым хінскім (кітайскім) войскам, каторае ёй няпрыязнае. Ці гэтае вайна спыніцца, ці разаўецца далей, яшчэ няма ведама.

### Грэцыя.

У Грэцыі на мінулым тыдні было новае паўстаньне ў Афінах ужо проці найнавейшага дыктатара ген. Кондыліса. Паўстанцы пабітыя і паддаліся.

## РОЗНЫЯ.

**Дэмонстрацыя проці бальшавікоў.** У канцы верасьня ў бальшавіцкія воды прыплывае некалькі англіцкіх параходаў.

**А. Скрынскаму** запрапанавалі быць польскім паслом у Лёндане замест дагэтуляшняга Скірмунта.

**Паўстаньне ў Туркестане.** Адзьдзелы паўстанцаў так званых басмачоў пачалі наступленьне проці чырвонай арміі ў Вохчынскім вокрузе. Радавыя адзьдзелы адступілі ў паўночным кірунку. Камандзер радавай дывізіі Кочароў разам з усім штабам захоплены ў палон.

**Францыя зьмяншае армію.** Прэзыдэнт падпісаў дэкрэт аб скасаваньню 106 подпрэфэктураў і 70 генэральных сэкрэтарыятаў.

Рада міністраў пастанавіла зьменшыць лічбу арміі на 3.900 ахвіцэраў і 19 тысячаў канёў і інш.

## Прысылайце адрасы!

Просім нашых чытароў прысылаць нам як найболей адрасоў сваіх знаёмых, каб мы маглі паслаць на іх пробныя нумары нашай газэты.

# Гаспадарскі адзьдзел.

### Аб супалкавых малачарнях.

(Працяг).

Што рабіць пры закладзінах малачарні?

Часіна закладзінаў с. малачарні ў жыцьцю нашае вёскі ё вельмі важная, дзеля таго мусова яе складна нарыхтаваць, але аб гэтым напішу асобна. Сядня крыху пагутарым аб далейшай прыгатове*) да закладзінаў як самога пачынальніка, так і будучых сяброў.

### Прыгатова да закладзінаў.

Працу арганізацыйную ад самога пачатку трэба павясьці правільна і галоўна грунтоўна. Да мэты не бягом гнацца, а лепей памалу ісьці. Замінаў не абмінаць, толькі не стахаючы*) (не перастаючы) ходацца, пакуль ня ўступяць. Вось самаважныя зацемы*) (увагі), аб каторых пачынальніку арганізацыйнае працы забывацца нельга.

Усім вядома, што хаты не асnуе правільна той, хто ніколі ня бачыў як гэта робіцца і нямае аб рубеньні вуглоў, шулаў і палцаў жаднага цяму*) (паняцьця). Таксама ня можа правільна падрыхтаваць закладзінаў с. малачарні чалавек, каторы ніколі з гэтаю справаю ня стыкаўся. Дзеля таго пачынальнік перш-наперш сам мусіць добра азнаёміцца з малачарствам. Дзеля гэтае мэты можна прачытаць брашуру: „Jak założyć spółdzielnię mleczarską", ці кнігі: „Zakładanie i prowadzenie spółdzielni mleczarskich" Z. Chmielewskiego i H. Smolińskiego, кашт. 2 зал. і „Mleczarstwo" A. Tadrzyński—1 зал. 20 гр., каторыя можна дастаць ўва ўсіх большых кнігарнях. Апроч таго вельмі было-б жадаўна*), каб пачынальнік даведаўся гдзе да добра арганізаванай с. малачарні і прыгледзеўся да ўсяго зблізу і практычна. Здабыўшы такім парадкам болей меней драбязнае выўменьне*) (паняцьце) малачарнае справы, можна прыступіць да пашырэньня сьвядомасьці аб с. малачарні між гаспадарамі тае вакругі, гдзе яна мае быць закладзена.

Гдзе ўжо ёсьць закладзены гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, там найлепей у памяшчэньні гуртка наладзіць некалькі азнаёмных*) гутарак-рэфэратаў, а гдзе такога гуртка яшчэ нямаш, там перш мусова*) арганізаваць яго і тады ўжо праз гурток і пры яго памозе пачаць прыгатову*) сяброў да закладзінаў с. малачарні. Як арганізаваць гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры можна даведацца ў Віленскім адзьдзеле Інстытуту (адрэс: Wilno, Zawalna 7—8).

Матар'ял для азнаёмных гутарак пачынальнік мусіць забраць з вышпаказаных кніг і свае практычнае веды. Гутаркі трэба так павясьці, каб яны маглі зацікавіць слухачоў. Мэты гэтае прамоўца даб'ецца, калі будзе гаварыць жыва, ясна і дасьціпна. Нельга пачынаць гутарак бяз шырокае прыгатовы. Гутарка-рэфэрат мусіць быць ясны, просты і без закавык, каторых і сам прамоўца не вумее*) (не панімае). Важна ў часці аргумэнтацыйнай вылучыць і падчыркнуць довад на лічбах апёрты, які паказуе вялікаю карысьць супалкавае малачарні ў прыраўнаньні з тою мізэрнаю карысьцяю, якую дагэтуль гаспадары з малака маюць.

Ведама, найлепшыя гутаркі, выкладаныя добра і зразумела, не ўсіх адразу зацікавяць і праканаюць. Шмат знайдзецца такіх, каторыя ўсё-ж такі ня поймуць, другія не паверуць, а трэція аднясуцца да справы сонна і, сказаўшы нябітры дэвіз: „а мне ўсё роўна", схінуцца на бок. Арганізатар да ўсіх павінен аднесьціся ўважліва і першым разьясьняць, пакуль ня сьцямяць, другім даваць новыя довады, а трэціх надзіць (мануць) выгадамі і карысьцяй, каторых усё-ж пераялічаць ня раю, бо ў гэтым крыецца вялікая небясьпечнасьць.

Апроч вышпамянёных трох катэгорыяў слухачоў бяссумлеву знайдзецца і чацьвертая. Гэта будуць людзі сьвятлейшыя, каторыя важнасьць справы адразу сьцемяць і заахвоцяцца да працы. Арганізатар павінен зьвярнуць на іх вялікую ўвагу, бо гэта ягоныя памагатыры (памачнікі). Трэба ім даць магчымасьць праз падходзячую літэратуру шырэй азнаёміцца з малачарствам і паводле змогі зь ідэолёгіяй коопэрацыі. З такіх сьвятлейшых адзінак памалу выходзяць рабачаі і ў канцы рабачаі найчасьцей складаюць урад маладое арганізацыі.

Пасьля дзвёх-трох азнаёмных гутаркаў можна склікаць арганізацыйны сход і прыступіць да запісаў у сябры. *М. Ш.*

*) Словы, азначаныя зоркаю, ужывае сам аўтар. Адцемлюем гэта, каб паказаць, што нашыя супрацаўнікі імкнуцца да чысьціні мовы.

(Далей будзе).

### Камасацыя і прыдзел зямлі.

Газэта „Nowy Kurjer Polski" падае, што міністэрства земляробства зварочуе цяпер вялікаю ўвагу на камасацыю, г. зн. выхад на хутары ці начай на аднаселі. Земскія ўрады будуць дасьледаваць, дзе павінна быць зроблена камасацыя. Пры гэтым, калі земскі ўрад знайдзе патрэбным, можа быць загадана перайсьці на хутары (аднаселі) ня толькі вёсцы, жадаючай гэтага, але навет і тэй, што камасацыі ня хоча. Далей газэта піша даслоўна гэтак:

„Калі ўрады знойдуць камасацыю патрэбнай, дык павятовыя Урады Земскія будуць выступаць з прапановай папоўніць прастор камасаванай зямлі, каб павялічыць адпаведныя гаспадаркі—хутары. Гэтае папаўненьне можа стацца прыдзелам адпаведных земляў скарбовых, або земляў гаспадарсьцьвенага (дзяржаўнага) Зямельнага Банку (Bank Rolny), або загадаюць парцэляваць неабходнаму прастору зямлі панскай.

Адносна панскіх земляў (дворных земляў) земскія ўрады дасталі даручэньне схіляць зацікаўленых гаспадароў купляць беспасярэдне ў паноў зямлю. Земскія ўрады маюць гаспадаром высьняць, што калі купіць дворнаю зямлю Гаспадарственны Банк Зямельны (Państwowy Bank Rolny) ці начай кажучы Гаспадарства, дык гэная зямля ня будзе прадавацца па якойсь надта нізкой цане, бо згодна з арт. 68 і 69 устаў з дня 28 сьнежня 1925 году аб правядзеньню зямельнай рэформы, прадажная цана мусіць раўняцца запраўднай гаспадарскай вартасьці тых земляў або цане іх куплі.

У сувязі з тым, што міністэрства разам разглядае камасацыю і парцэляцыю, робяцца стараньні, каб даць магчымасьць малазямельным гаспадаром забраць землі, назначаныя на папаўненьне іх гаспадарак навет перад пачаткам камасацыі. Каб прысьпяшыць гэта, міністэрства прадбачыць магчымасьць куплі гэтакай зямлі на супольнаю (сябраную) собскасьць, з абазначэньнем толькі на паперы прыпадаючай на кожнага сябру часьці купленай зямлі; цзяльня гэтакай замлі будзе, відавачна, у часе самой камасацыі.

Каб палягчыць даставаньня пазыкаў на куплю вышуспомненых земляў, Гаспадарсьцьвены Банк Зямельны (Państwowy Bank Rolny) будзе адзіне вымагаць солідарнай адказнасьці ад тых, каторым пазычаць будзе".

Мы ўжо прызвычаіліся ня верыць жадным абяцанкам польскага ўраду.

Мы так сама добра ведаем, што з тых палёгкаў, каторыя напару даюцца земляробскаму насяленьню ў Польшчы, беларускае сялянства некарыстае. Гэта бывае з тае прычыны, што польская адміністрацыя, рупна абкладаючы нас непамернымі цяжарамі ў хворме падаткаў і г. п., старанна абмінае нас з палёгкамі.

А друкуем падобныя да сягодняшняй весткі дзеля таго, каб нашае сялянства аб гэтых палёгках ведала; каб, ведаючы, іх дамагалася. Як будзем упорна дамагацца, дык дастанем хоць частку нам належнага.

## Найвялікшыя барбарызмы.

„Biel. Krynica" ў № 31 відаць хацела паказаць, што Беларусы-каталікі могуць ня меней ужываці маскалізмаў, як Беларусы праваслаўныя. У гэтым № знаходзім гэтакія страшныя маскалізмы:

„бальшыя" зам. бел. *вялікія*,

„усё *подла* робіцца" зам. усё *нягодна* робіцца,

„умее папольску *ругануць*". Тут ад маск. слова ўтворана бел. хворма, мае быць *палаіць*.

Не беларускае, а чыста маскоўскае выражэньне: „кіраўнік пошты *душа* чалавек".

Можна быць меней лёяльнымі да ўрадовае маскоўскае тэрмінолёгіі і замест „Саветы, савецкі" ўжываць „Рады" і г. п.

Асобна зацемлю аб мове Ст. Грынкевіча ў стацьці „Сын вёскі". Спадар (пан) Ст. Грынкевіч належыць да зацнае лічбы ў нас людзёў, што запраўды шануюць роднаю мову й стараюцца гукаці й пісаці *чыста* пабеларуску. Стараньні гэтыя наагул яму ўдаюцца, але дзеля таго што, з прычыны неахайнасьці мноства іншых, нашая літаратурная мова вельмі засьмечана ўсялякімі барбарызмамі, гэтыя барбарызмы лучаюцца і ў Ст. Гр. Адцемлю іх.

„Ва ўсім". Прыймя **vъ* ў бел. мове ніколі ня можа мець выгляду *ва*, але будзе *у-ў* або *ува-ўва* (*ў* па галосных); у бел. мове *ва* могуць ужыць хіба толькі на вельмі абмежаным прасторы. Дык трэ' сказаці *ува ўсім* або *у ўсім*.

„Вось што кажуць людзі, мяркуючы аб нас толькі *з вонкаў*". Есьць прыслоўе *вонках* (=маск. *вне*), ё *навонкі* (=маск. на извне) і ё *звонку* (=маск. извне), але нямаш „звонкаў", якое сам Ст. Гр. утварыў паводле *вонках*.

„адною з асаблівасьцяў нацыянальных будзе *іншасьць* псыхікі". Есьць дзьве беларускія слове — *іншы* і *накшы*, пры гэтым *накшы* значыць іншы якасьцяй. Гэта ўжо даўно зацеміў Е. Карскі ў сваіх „Беларусах". Дык тут было-б... *накшасьць псыхікі*.

„мягкія"—маск., пабелар.—*мяккія*.

„мрыі, мрыяю". Украінская *мрія* з *мроя* (*і* з *о*). Дык, калі-б гэта было бел. слова, было-б *мроя*. Бел. ё *лятунак*.

„паэт". У нас ё імёны мускога роду на—*а* (мужчына, вайвода і г. п.), дык нямаш жаднае прычыны мяняць лац. poeta на поэт. Значыцца будзе *паэта*, а жанчына *паэтка*.

„прастата"—маск., бел.—прасьціня.

„сапраўды", *с* пад уплывам маскоўскім, мае быць *запраўды*, як найчасьцей і кажацца.

„Спамылка". Ня ведаю адкуль В. Ластоўскі ўзяў гэткаю хворму гэтага слова. У „Аль-Кітабе", памятцы з чыстай бел. моваю, ё толькі *абмыла*. Як зьменшанае можа быць і *абмылка*.

„Сумліў, сумніў". Гл. „Найвялікшыя барб." ў № 26 „Сял. Нівы".

У бел. мове дзеясловнае прыметы на—*шы*, —*ўшы* зусім нямаш, дык нямажа быць: „у творах памёршага песьняра", „дзірван заросшы над намі", а будзе: ...*умерлага*..., ...*зарослы*...

Давальны склон адзін. ліку імёнаў муск. і ніяк. роду ў бел. мове канчаецца толькі на—*у*. Дык ня можа быць „народаві", але *народу*. Хвормы на—ові (аві) могуць быць толькі ў вельмі вузкім кутку.

*Д-р Я. Станкевіч.*

## Кутох сьмеху й сатыры.

Якая розьніца паміж сьвядомым і несьвядомым Беларусам?

— Як паміж ваўком і сабакам. Воўк і сабака аднаго паходжаньня, але воўк вольны зьвер, ён пілнуецца свайго воўчага роду і нікому не наймаецца. Сабака, наадварот, служыць таму, хто яго корміць або і б'е. Як гаспадары сабаку, так несьвядомага Беларуса чужнікі хваляць за яго вернасьць. І канец іх аднолькавы. Як сабака перастане служыць, ягоны гаспапар праганяе яго; гэтак робяць чужнікі і зь несьвядомым Беларусам.

### Надта добры край.

(З праўдзівых гутарак).

— Скуль Ваша? — пытаюцца ў аднаго Віленца ў Кракаве.

— Зь Вільні — адказуе той.

— Ах, які добры край гэты, вашая Віленшчына — залапатаў Паляк. У мяне быў адзін сваяк; выгналі яго зь першай клясы гімназіі. Ня ведаў я, што зь ім рабіць: ён быў такі нягоднік і абібока, што нідзе ня мог удзержыцца. Але паслалі яго ў Вашаю Віленшчыну і ён тамака цяпер кіраўніком школы. Надта добра ў вашай Віленшчыне! — лапатаў аблізуючыся Паляк.

### ЗАГАДКІ.

1. Бяз рук, бяз ног па дзераве лезе.
2. Шах-мах пад прыпек і лёг.
3. Сядзіць дзядок візак, а на ім сто рызак.

Адгадкі ў наступным нумары. Хто за тыдзень адгадае гэтыя тры загадкі, той дастане за паўцаны Беларускі Календар на 1927 г.

### ПРЫКАЗКІ.

1. Як на стале, рукі свае.
2. Калі грыбно, то і хлябно.
3. Каму гараваць, таму ня ўміраць.



Рэдактар і выдавец Ст. Вольскі. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.